ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 24 (2582)

18 чэрвеня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

УРАЧЫСТАСЦІ Ў ПОЛАЦКУ

## ДА ПРАПАДОБНАЙ ЕФРАСІННІ



Праваслаўная царква і свецкая грамадскасць Беларусі адзначылі 825-годдзе з дня смерці прападобнай Ефрасінні Полацкай. Вялікія ўрачыстасці з гэтай нагоды адбыліся ў старажытным Полацку.

Пакланіцца святым мошчам і вярыгам прападобнай прыбылі паломнікі з усёй Беларусі. Шмат людзей запоўнілі тэрыторыю Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Тут адбыліся боская літургія, хрэсны ход і малебен каля святых мошчаў прападобнай Ефрасінні.

Святочнае богаслужэнне ўзначаліў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён зачытаў прывітанне патрыярха Маскоўскга і ўсяе Русі Аляксія Другога, які сардэчна павіншаваў усіх благачынных жыхароў Беларусі з днём памяці прападобнай Ефрасінні.

Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел кіраўнікі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Павел Шыпук і Анатоль Малафееў, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі і старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык. Павел Шыпук зачытаў прывітанне Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, у якім кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў святым для беларусаў горадзе, адкуль пачалося распаўсюджванне праваслаўнай культуры, асобае месца належыць прападобнай Ефрасінні.

НА ЗДЫМКУ: мнагалюдна было ў гэты дзень каля Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ТРАГЕДЫЯ 41-га

## «МЫ ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАІМ...»

Вялікая Айчынная вайна ўвайшла ў нашу гісторыю як небывалае па жорсткасці, трагізму і гераізму змаганне народаў супраць гітлераўскага фашызму. Шлях да перамогі быў доўгім і цяжкім. Цікавасць да падзей тых гадоў, да асэнсавання вынікаў і ўрокаў вайны не слабее, яна тлумачыцца і той роллю, якую адыграла вайна ў жыцці нашага народа, і часткова незадаволенасцю адказамі на многія пытанні, якія ўжо вырашаны нашым часам.

Вайна па загаду і жаданню сталінскага рэжыму з першага дня была сцягнута трывалай сеткай хлусні. 22 чэрвеня салгаў Молатаў, у выступленні па радыё сказаўшы, што гітлераўская Германія напала на нас вераломна і раптоўна. Вераломна — так. Але раптоўна? Сёння дакладна ўстаноўлена, што кіраўніцтву краіны былі загадзя вядомыя дзень і гадзіна пачатку вайны, сілы праціўніка і напрамкі, на якіх пачнуцца баявыя дзеянні. Ёсць розныя тлумачэнні таго, чаму Сталін аддаў перавагу таму, каб кінуць пад бомбы мірныя гарады, знішчыць частку сваіх узброеных сіл, а не прыняў неабходныя меры для адпору захопнікам. Ён, які не верыў ніколі і нікому, раптам так слепа і безаглядна паверыў палітычнаму праціўніку? Ці не лічыў Гітлера праціўнікам?

Вайна пакацілася па нашай зямлі, цягнучы за сабой шлейф крыві, гора, слёз. Можа, ён быў бы крыху меншым, калі б не суправаджаўся пастаянна самай разнастайнай хлуснёй. Многа было яе нават у чыста ваенных справах, асабліва ў першыя месяцы і гады, калі пісаліся лжывыя рапарты, данясенні і зводкі, калі дзеля ўзнагароды ці прыязнасці начальства гналі пад кулямёты салдат, усцілаючы іх трупамі схілы нікому непатрэбных высотак. Але гаварыць пра гэта было не прынята і нават небяспечна як у час вайны, так і пасля яе.

"Мы за цаной не пастаім!" — гэта не толькі словы з песні, гэта метад вядзення вайны. І яшчэ адна фраза: "Пераможцаў не судзяць". Сапраўды, за дарэмныя, неапраўданыя страты ў нас не асудзілі нікога: народа многа, нашто разменьвацца на дробязі, соцень тысяч больш, соцень тысяч менш... А колькі да ахвяр вайны трэба прыбавіць ахвяр ваенных трыбуналаў, асобых аддзелаў, жорсткіх і бесчалавечных загадаў Вярхоўнага накшталт загаду № 227 аб ўвядзенні штрафных падраздзяленняў і загараджальных атрадаў! Колькіх расстралялі ў спіны гэтыя атрады? Гэта нікому невядома.

АляксандруУвораву належаць словы аб тым, што вайна не скончана, пакуль не пахаваны апошні салдат, які загінуў на палях яе баёў... Рэха Вялікай Айчыннай і праз паўстагоддзя грыміць па Беларусі. У гісторыі да гэтай пары засталіся ненапісанымі старонкі і цэлыя раздзелы. Некаторыя з іх перапісваюцца нанава. Колькі яшчэ касцей раскідана па палях і лясах беларускіх? Невядома. Хто ў выкапанай наспех баявымі таварышамі магіле ляжыць, хто пахаваны мясцовым насельніцтвам, хто знішчаны і закапаны захопнікамі. Так і ляжаць — улічаныя і невядомыя...

Заходняя Асобая ваенная акруга (камандуючы генерал арміі Д. Паўлаў, начальнік

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## «БРАСЛАЎСКІЯ ЗАРНІЦЫ-98»



Сям'я майстроў па пляценню з лазы з Мёр — БАЛЯСЛАЎ, ГАЛІНА і сын Аляксандар ЧАРНЯЎСКІЯ са сваімі работамі на свяце ў Браславе.

*(Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).*

## З САКРЭТНЫХ АРХІВАЎ ГУЛАГа



Сяргей Міхайлавіч НОВІК—ПЯЮН...

Аднаго гэтага імя дастаткова, каб у тых беларусаў, хто прайшоў цярністымі дарогамі выгнання-эміграцыі, адразу ж узнікла ў памяці шчымліва-трагічная мелодыя славутых пяюноўскіх "Зорачак". Бо што ж можа быць трагічней за страчаную Радзіму!.. Кажуць і літаратуразнаўцы, і чытачы: калі б Сяргей Новік-Пяюн не напісаў больш нічога, акрамя "Зорачак", ён усё роўна застаўся б у нашай літаратуры.

Каму невядомы пакутлівы лёс паэта, якога кідалі за краты і польская дэфензіва, і фашысцкае гестапа, і бальшавікі.

Прапануем увазе чытачоў "Голасу Радзімы" некаторыя дакументы з "Личного дела Сергея Новика", знойдзеныя ў ГУЛагаўскіх архівах Сібіры нашым сталым аўтарам Алесем БАРКОЎСКІМ.

(Матэрыял змешчаны на 4-й стар.).

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АБАРАНІЦЬ ПРЭЗІДЭНТА*

## ПАКАРАННЕ ЗА ПАКЛЁП

**Жорсткія пакаранні за прыніжэнне гонару і годнасці беларускага Прэзідэнта прадугледжаны ў законапраекце, які быў разгледжаны і прыняты ў першым чытанні ў ніжняй палаце Нацыянальнага сходу Беларусі.**

**Згодна з законапраектам, публічная знявага Прэзідэнта ці паклёп у адносінах да яго могуць карацца пазбаўленнем волі на тэрмін да чатырох гадоў, а тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна ці з выкарыстаннем прэсы, могуць прывесці да пяцігадовага тэрміну пазбаўлення волі.**

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## СУСТРЭНЕМ ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выдаў указ, згодна з якім урад рэспублікі павінен утварыць нацыянальны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкаванню 2000-годдзя хрысціянства.**

**У дакуменце адзначаецца, што міністэрствы, іншыя рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, а таксама мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы павінны аказаць камітэту ўсякае садзейнічанне.**

*СВЯТА ГОРАДА*




**Жыхары Магілёва адзначылі чарговую гадавіну свайго горада. На многіх канцэртных пляцоўках праходзілі выступленні артыстаў, але самым грандыёзным было музычнае шоу на стадыёне "Спартак". У ім прынялі ўдзел зоркі як беларускай, так і расійскай эстрады. Не абышлося свята і без тэатралізаванага шэсця па галоўнай вуліцы горада — Першамайскай.**

**НА ЗДЫМКУ: у час тэатралізаванага шэсця.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## БЕЛАРУСКІЯ ПАСЛЫ Ў ЕГІПЦЕ І ЮГАСЛАВІІ

**Указамі кіраўніка беларускай дзяржавы Надзвычайнымі і Паўнамоцнымі Пасламі Рэспублікі Беларусь назначаны: у Саюзнай Рэспубліцы Югаславіі Валерый Брылёў, а ў Арабскай Рэспубліцы Егіпет — Ігар Ляшчэня.**

**В. Брылёў нарадзіўся ў 1959 годзе ў г. Гомелі. З сакавіка 1997 года — саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Саюзнай Рэспубліцы Югаславія. І. Ляшчэня нарадзіўся ў 1967 годзе ў г. Жодзіне. З 1997 года — саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Арабскай Рэспубліцы Егіпет.**

## НОВЫ ПАСОЛ ПОЛЬШЧЫ

**"Беларусь і Польшча — дзве дзяржавы, якім Богам суджана жыць разам", — заявіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прымаючы 9 чэрвеня даверчыя граматы ў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Польшча ў Беларусі Мар'юша Машкевіча.**

**Паводле слоў кіраўніка беларускай дзяржавы, агульную гісторыю нашых краін і народаў нельга дзяліць. У ёй было шмат трагічных старонак, але добрае ўсё ж пераважала над негатыўным. Важна не паўтараць старых памылак і разам шукаць вырашэнне спрэчных пытанняў.**

**Мар'юш Машкевіч, у сваю чаргу, звярнуў увагу Прэзідэнта Беларусі на тое, што нашы краіны аб'ядноўвае не толькі гістарычная агульнасць, але і вузы сваяцкіх і сямейных адносін. "Таму мы гаворым і думаем адзін пра аднаго не толькі як пра народы і дзяржавы, якія маюць агульную граніцу, але і як пра блізкіх, знаёмых, членаў агульнай сям'і, — сказаў пасол.**

*КУРС — РАНЕЙШЫ*

## З'ЕЗД САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

**113 дэлегатаў чарговага з'езда Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) падтрымалі на выбарах старшыню арганізацыі Міколу Статкевіча, і толькі трое прагаласавалі супраць. Гэта, паводле ацэнак кіраўніцтва БСДП (НГ), сведчыць не толькі аб папулярнасці лідэра, але і аб кансалідацыі сіл у партыі і падтрымцы таго палітычнага курсу, які яна праводзіць.**

**Першачарговымі мэтамі сваёй дзейнасці сацыял-дэмакраты з Народнай грамады лічаць стварэнне пярвічных суполак ва ўсіх раёнах краіны і ўдасканаленне працы Цэнтральнага камітэта. Яны таксама лічаць неабходным арганізацыю эфектыўнай сістэмы палітычнай адукацыі, якая б праводзіла адпаведную работу сярод рабочых. Адначасова была выказана патрэба ў стварэнні ўласнай структуры, якая б бараніла правы і інтарэсы сяброў БСДП і іншых сацыял-дэмакратычных арганізацый.**

**На з'ездзе было высокае прадстаўніцтва замежных гасцей — сацыял-дэмакраты Германіі, Галандыі, Швецыі, Польшчы, Расіі і Украіны накіравалі ў Мінск пасланцоў на ўзроўні старшынь і намеснікаў. Прысутнічаў таксама дэпутат Еўрапарламента Вілі Пічык і генеральны сакратар Партыі еўрапейскіх сацыялістаў Жан-Франсуа Вілін.**

*ЛАЎРЭАТ*

## ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЬБЕРТА ШВЕЙЦЭРА — У. ЛІПСКАМУ

**Адна з дзвюх прэмій імя Альберта Швейцэра, якія прысуджаюцца ў гэтым годзе, упершыню ўручана нашаму суайчынніку — пісьменніку, прэзідэнту Беларускага дзіцячага фонду Уладзіміру Ліпскаму.**

**Журы прыняло гэта рашэнне аднагалосна, так ацаніўшы дабрачынную дзейнасць Уладзіміра Ліпскага на карысць беларускіх дзяцей, бязвінных ахвяр Чарнобыля.**

**У будынку Савета Еўропы ў прысутнасці яго прадстаўнікоў, а таксама кіраўнікоў дыпламатычных місій і вядомых грамадскіх дзеячаў Францыі, Германіі, Швейцарыі, Італіі ўзнагароду ўручыў архіепіскап Страсбурга Шарль Амарэн Брант. Такую ж прэмію атрымаў прэзідэнт французскай асацыяцыі "Куток Калумбіі" Петрык Беглот.**

*ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*



**Пасёлак Дубоўка каля Лунінца, бадай, самы малады ў раёне: яму ўсяго пяць гадоў. Сюды былі перасялены людзі з забруджаных радыяцыяй вёсак. Цяпер у Дубоўцы пражывае больш за сто сямей, працуюць магазін, школа, кацельня, урачэбная амбулаторыя, якую наведвае паўтары тысячы чалавек. Каб даць людзям работу, была пабудавана малочнатаварная ферма на чатырыста галоў жывёлы.**

**НА ЗДЫМКУ: новая школа ў пасёлку Дубоўка.**

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

*СУМЕСНАЯ КНІГА*

## «ШЧЫТАПАДОБНАЯ ЗАЛОЗА»

**"Шчытападобная залоза. Фундаментальныя аспекты" — гэта кніга створана беларускімі і японскімі навукоўцамі. Аўтарамі падручніка сталі прафесар Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута А. Кубарка і прафесар універсітэта з Нагасакі С. Ямасіта. Кніга — вынік ажыццяўлення дагавора аб супрацоўніцтве паміж Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам і Медыцынскай школай універсітэта горада Нагасакі.**

**Яна з'явілася першым вопытам міжнароднага калектыву па падрыхтоўцы такіх выданняў. Трэба спадзявацца, што кніга, заснаваная на вопыце супрацоўніцтва ў данай галіне беларускіх і японскіх вучоных, будзе мець неацэнна значэнне для студэнтаў медыцынскіх інстытутаў, урачоў-анколагаў і для ўсіх, хто непасрэдна займаецца гэтай праблемай.**

*КІРМАШ ВАКАНСІЙ*




**У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі прайшоў "Кірмаш вакансій" для студэнтаў і вучнёўскай моладзі Мінска. Спектр месцаў для працаўладкавання вельмі шырокі і разнастайны. Кожны мог знайсці сабе працу па спецыяльнасці як часовую, так і пастаянную.**

**Арганізаваў кірмаш Мінскі гарадскі цэнтр занятасці моладзі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час работы кірмашу вакансій.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

*ПРАДСТАЎЛЕНА Ў БАЛГАРЫІ*

## «ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА»

**Пасольства Беларусі ў Сафіі разам з таварыствам дружбы "Балгарыя — Беларусь", выдавецтвам "Літаратурны форум" і Саюзам перакладчыкаў Балгарыі правяло прэзентацыю класічнага твора беларускай літаратуры — "Песня пра Зубра" Міколы Гусоўскага, выдадзенага на балгарскай мове па ініцыятыве пасольства пры фінансавай падтрымцы "Белзнешэканомбанка".**

**На цырымоніі прысутнічалі віцэ-прэзідэнт Балгарыі Тодар Каваладжыеў, кіраўнікі пасольстваў Расійскай Федэрацыі, Украіны, Малдовы, Арменіі, члены Федэрацыі дружбы з народамі Расіі і СНД, Саюза перакладчыкаў і пісьменнікаў Балгарыі, вядомыя дзеячы культуры і навукі, прадстаўнікі прэсы.**

**У сваім уступным слове пасол Беларусі ў Балгарыі Аляксандр Герасіменка расказаў пра творчасць Міколы Гусоўскага, пра гісторыю напісання "Песні пра зубра", дзейнасць выдатных перакладчыкаў Беларусі і Балгарыі.**

**Віцэ-прэзідэнт Балгарыі высока ацаніў намаганні пасольства Беларусі па развіццю супрацоўніцтва ў галіне культуры. Як адзначыў Тодар Каваладжыеў, паміж нашымі народамі, якія маюць агульныя гістарычныя і духоўныя карані, ніколі не існавала моўных бар'ераў, а паміж беларускімі і балгарскімі пісьменнікамі, паэтамі і перакладчыкамі ўсталяваліся дружалюбныя сувязі.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ з дня свайго заснавання адзначае Гродзенскі дзяржаўны універсітэт. На дзевяці яго факультэтах сёння займаюцца больш 8 тысяч студэнтаў.

У КРАСОЎШЧЫНЕ, вёсцы паблізу Маладзечна, адкрыты раённы цэнтр народнай творчасці. Філіялы такіх цэнтраў, дзе могуць сустракацца народныя ўмельцы, абменьвацца вопытам, ладзіць свае выставы, збіраюцца адкрыць у Зыскавічах, Палачанах, Беразінскім ды іншых буйных вёсках на Маладзечаншчыне.

СМАЛЯВІЧЫ займелі свой герб: варажскі шчыт, на якім суседнічаюць радавая эмблема князёў Дзергавічаў (першых уладальнікаў Смалявічаў) і вывяза смаляной бочкі. Праз дзесяць год горад адзначыць сваё 500-годдзе.

УНІКАЛЬНЫ парк-сад падарыў рэгіянальны саюз "Візер-эмс" Федэрацыі нямецкіх прадпрыемстваў-гадавальнікаў дзіцячаму санаторыю "Случ" Слуцкага раёна. "Візер-Эмс" накіраваў сюды больш 5 тысяч саджанцаў 43 назваў дэкаратыўных раслін. Беларусь стала адзінаццатай краінай свету, дзе з'явіўся такі парк.

У БЕЛАРУСІ раздзяржаўлена 74 працэнты прадпрыемстваў гандлю. З іх 23 працэнты — магазіны спажывецкай кааперацыі, 46 — усемагчымыя арэндныя прадпрыемствы і акцыянерныя таварыствы. І толькі 5 працэнтаў магазінаў належаць прыватным асобам.

У СМАРГОНІ, у мікрараёне індывідуальнай забудовы, з'явілася многа вуліц, якія носяць імёны беларускіх пісьменнікаў. Адной з іх нададзена імя Артура Цяжкага. Артур Цяжкі нарадзіўся на Смаргоншчыне, тут і пахаваны. У канцы 70-х гадоў ён працаваў у "Голасе Радзімы".

УПЕРШЫНЮ найвышэйшая горная вяршыня свету Эверэст (Джамалунгма, 8 848 метраў над узроўнем мора) у Гімалаях пакарылася беларусу. Барысаўчанін Віктар Кульбечанка ўзышоў на "макаўку планеты" 18 мая і прабыў на Эверэсце 50 мінут. Ён устанавіў там Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і сцяг Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

ТРОЙНЯ, другая за апошнія дзесяць год, з'явілася на гэты раз у Гродне. Усе трое нованароджаныя — хлопчыкі. Мясцовыя ўлады выдзялілі цяпер ужо шматдзетнай сям'і кватэру.

СТАРШЫ навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі кандыдат медыцынскіх навук Яўген Дарашэнка адзначаны вышэйшай узнагародай Еўрапейскага супольніцтва. Так ацэнены яго ўклад у вывучэнне праблем процірухлінавых уласцівасцей прэпарата ўпраін.

# ЗМЕНЫ НА ТАМОЖНІ

Дзейнасць таможных органаў Рэспублікі Беларусь летась прынесла ў бюджэт краіны 30 працэнтаў ад усіх паступленняў, а адзін рубель затраты на таможныя органы даў 30 рублёў прыбытку. Пра гэта, а таксама пра міжнароднае ўзаемадзеянне беларускай таможні расказаў на сваёй першай прэс-канферэнцыі ў канцы мая старшыня Дзяржаўнага таможнага камітэта Рэспублікі Беларусь Вікенцій МАКАРЭВІЧ.

За перыяд з 1995 па 1998 год Дзяржаўнай таможнай службай Рэспублікі Беларусь было распрацавана больш дзесяці міжнародных дагавораў міжурадавага і міжведамаснага ўзроўню. Сярод асноўных напрамкаў міжнароднага супрацоўніцтва беларускай таможнай службы — праца па стварэнні таможнага саюза ў рамках "двойкі" і "чацвёркі", а таксама ўдзел у рабоце Савета кіраўнікоў таможных службаў СНД.

Беларускія таможныя службы супрацоўнічаюць з Сусветнай таможнай арганізацыяй, Еўракамісіяй, Еўратаможняй і шэрагам іншых міжнародных арганізацый. Ажыццяўляецца ўзаемадзеянне з таможнымі адміністрацыямі Літвы, Польшчы, Латвіі, з якімі ўстаноўлены кантакты ў рамках падпісаных пагадненняў, на рэгулярнай аснове праводзяцца сустрэчы з адміністрацыямі таможных службаў гэтых дзяржаў. Не так даўно адбылася сустрэча з кіраўнікам таможнай службы Польскай Рэспублікі, на якой абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння і кантролю на заходняй граніцы ў раёне Казловічаў у сувязі з уводам польскім бокам новага тэрмінала. З прадстаўнікамі таможнай службы Літвы зараз рыхтуюцца перагаворы аб становішчы на беларуска-літоўскай граніцы.

Што тычыцца развіцця супрацоўніцтва з далёкім зарубежжам, то найбольшая ўвага надаецца ўдзелу экспертаў таможных службаў рэспублікі ў распрацоўцы міжнародных дагавораў аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. У стадыі падрыхтоўкі знаходзяцца праекты пагадненняў са Славакіяй, Вялікабрытаніяй, Індыяй, Ізраілем, Турцыяй і іншымі дзяржавамі.

У апошнія гады таможная служба Беларусі актыўна ўдзельнічае ў рабоце Сусветнай таможнай арганізацыі, членам якой з'яўляецца з 1993 года. З усіх краін СНД толькі пяць дзяржаў, у тым ліку і наша, ажыццяўляюць цесныя кантакты і рэгулярна ўносяць неабходныя плацяжы. У сувязі з гэтым на запланаванай у чэрвені гэтага года сесіі Сусветнай таможнай арганізацыі будзе разглядацца пытанне аб удзеле беларускай таможнай службы ў фінансавым камітэце Сусветнай таможнай арганізацыі.

6 студзеня 1995 года было заключана пагадненне аб таможным саюзе паміж Расійскай Федэрацыяй і Беларуссю, да якога затым далучыліся і іншыя краіны СНД. Тым не менш, сёння найбольш цеснае ўзаемадзеянне ажыццяўляецца з таможнай службай Расійскай Федэрацыі.

У адпаведнасці з пагадненнем, таможныя службы краін, што падпісалі яго, абавязаны уніфікаваць свае таможныя заканадаўствы, якія за апошні час значна змяніліся. Былі ўведзены новыя віды таможных рэжымаў, на таможныя органы ўскладзена збіранне падатку на дабаўленую вартасць, акцызаў, уведзена забеспячэнне ўплаты таможных плацяжоў. Па словах старшыні Дзяржаўнага таможнага камітэта Беларусі Вікенція Макарэвіча, "для далейшага ўмацавання статуса таможных органаў неабходна ў заканадаўчым парадку надзяліць іх правам праўядзення праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца знешнегандлёвай дзейнасцю, устанавіць спрошчаны парадак дэкларавання і таможнага афармлення, ажыццяўляць валютны кантроль, праводзіць таможныя аўкцыёны і шэраг іншых аперацый. Гэта дазволіць узмацніць рэгулюючыя функцыі таможных органаў для ажыццяўлення знешнезканамічнай дзейнасці, але самае галоўнае, забяспечыць павелічэнне паступлення плацяжоў у бюджэт дзяржавы".

Апошнім часам таможнае рэгуляванне ажыццяўлялася пры дапамозе выдання ўказаў і дэкрэтаў Прэзідэнта па самых розных напрамках дзейнасці таможных органаў. Але гэтыя нарматыўныя акты носяць часовы характар і не могуць вызначаць развіццё таможных органаў на перспектыву. З мэтай выключэння рэгулявання таможных праваадносін рознымі па сваіму значэнню нарматыўнымі актамі і з улікам таго, што на момант заключэння пагаднення аб таможным саюзе таможныя кодэксы Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі канцэптуальна адрозніваліся адзін ад аднаго, Дзяржаўным таможным камітэтам быў распрацаваны, узгоднены і ўнесены на Савет Міністраў праект таможнага кодэкса Беларусі. З мэтай уніфікацыі таможных заканадаўстваў гэты праект быў практычна поўнасцю структурна і канцэптуальна ідэнтычны таможнаму кодэксу Расійскай Федэрацыі, ён адпавядае асновам таможнага заканадаўства дзяржаў — удзельніц СНД. Гэты праект быў прыняты як закон і ўступае ў сілу з 16 ліпеня гэтага года.

Адной з самых "гарачых" праблем на беларуска-польскіх таможнях з'яўляюцца шматдзённыя чэргі на граніцы, якія ўзніклі з-за чутак аб магчымай забароне на ўвоз у краіну старых легкавых аўтамабіляў. Як заявіў на прэс-канферэнцыі старшыня Дзяржаўнага таможнага камітэта Вікенцій Макарэвіч, "таможны камітэт афіцыйных даручэнняў ад урада на змяненне ставак таможных пошлін на ўвоз аўтамабіляў на сёння не мае. Я не выключаю, што змены будуць, але назваць іх дату не магу і хацеў бы заўважыць, што іх ні ў якім разе нельга звязваць з уступленнем у сілу таможнага кодэкса. Я афіцыйна заяўляю, што гэтыя змены не пагоршаць становішча грамадзян Беларусі".

Што тычыцца чэргаў на таможні, то, па словах Вікенція Макарэвіча, найбольш цяжкая сітуацыя склалася на пункце пропуску Варшаўскі мост, дзе сёння людзям даводзіцца чакаць да двух сутак. На Цэнтральнай Мінскай таможні чарга складае два тыдні. Па рашэнні Дзяржаўнага таможнага камітэта 25 чалавек з іншых таможняў накіравана на таможню Заходні Буг і на Цэнтральную таможню, каб разрадзіць сітуацыю. Праблема ўскладняецца тым, што як Цэнтральная Мінская таможня, так і пункт пропуску Заходні Буг не прыстасаваны для такіх аб'емаў работы. Сёння практычна ўсе таможні, размешчаныя на заходняй граніцы, працуюць у рэжыме, які перавышае ў два — два з паловай раза прапускную здольнасць гэтых пунктаў. Сёння ідзе рэканструкцыя васьмі першачарговых таможняў. Асобую ўвагу выклікалі злоўжыванні таможных чыноўнікаў. Летась у адносінах таможных органаў Рэспублікі Беларусь было ўзбуджана 72 крымінальныя справы, з іх 35 па ініцыятыве таможнай інспекцыі па асабоваму складу. У выніку праведзенай атэстацыі многія чыноўнікі былі паніжаны па службе. За 1997 год з таможных органаў былі звольнены па службовай неадпаведнасці (якія не прайшлі атэстацыю) 495 чалавек.

У будучыні намячаецца ўвядзенне кантрактнай сістэмы ў таможных органах. Рашэнне аб гэтым будзе прынята на працягу бягучага года.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



РЭПАРТАЖ З МАЁЙ ШКОЛЫ

# ПА ТОЙ БОК...

Усякі раз, калі я пераступаю парог школы, у якой некалі вучыўся, то адчуваю спакой і душэўную лагоду, нібы ўваходжу ў царкву. Мітусня жыццёвая, праблемы застаюцца па той бок дзвярэй.

Школьныя калідоры, ціхія і пустыя, поўныя дзіцячай гамы і смеху, праходзячы па вашых рыпучых масніцах, я раптам разумею, што ўсе гады майго другога, дарослага жыцця мне заўсёды недзе глыбока ў душы хацелася зноў і зноў пачуць гэтыя гукі далёкага мінулага.



І вось я зноў у маёй школе, але ўжо мяне прывялі сюды не толькі ўспаміны, а і чыста прафесійная цікаўнасць журналіста.

Як жа жыве сёння школа № 1 горада Смалявічы, названая ў гонар свайго першага дырэктара, акадэміка Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Васіля Купрэвіча?

Ты адчыніла ўпершыню свае дзверы ў далёкім 1934 годзе. За гэты час змяніла тры будынкі. Першае драўлянае памяшканне некалькі дзесяткаў гадоў назад знесена, і на іго месцы ўзведзена жылая пяціпавярхоўка. у другім, усё яшчэ моцным будынку (53-га года пабудовы) размяшчаецца міжраённы школьны навучальна-вытворчы камбінат. Ну а цяперашняе, дыхтоўнае трохпавярховае памяшканне хутка адзначыць свой дваццацігадовы юбілей. Старшакласнікамі мы адпрацоўвалі ўрокі працы на будоўлі школы, што завяршалася. А потым быў першы і апошні навучальны год нашага 10 "В".

Вядома ж, за гэтыя гады выкладчыцкі склад амаль поўнасцю абнавіўся. Многія настаўнікі маіх школьных гадоў пайшлі на заслужаны адпачынак. І мая першая настаўніца Валянціна Прыстром цяпер пенсіянерка. Яна аддала школе больш за 30 гадоў свайго жыцця.



А працягвае яшчэ працаваць наш класны кіраўнік, выкладчык фізікі Аляксандр Палуян — чалавек, захоплены сваёй прафесіяй да такой ступені, што неяк, тлумачачы класу адну з вучэбных тэм, ён аўтаматычна ўзяў анучку, прызначаную для выцірання дошкі, абцёр ёю пот на лбе і засунуў яе ў нагрудную кішэню пінжака. Клас смяяўся, смяяўся і настаўнік.

Выкладчык матэматыкі Людміла Талкач прыцягвала нас, вучняў, сваёй бязмежнай дабрынёй. Мне здавалася, што ўся яе сутнасць саткана з пачуццяў пяшчоты і ласкі. Прыемная сустрэча была дапоўнена ўспамінамі маёй школьнай біяграфіі. Дзіўна, як яна ўсё помніць аб сваіх былых вучнях, да дробязей. Цяпер на дырэктарскай пасадзе Людміла Лемеш, яна выкладчык хіміі. Вядома ж, для мяне гэта новы, незнаёмы чалавек. Але ў школе працуе ўжо не адзін год.

Прыемна даведацца, што са сцен школы толькі летась выйшла 16 медалістаў, з іх 11 чалавек скончылі з залатымі медалямі.

І ў сёлетнім выпуску 11 "Б", дзе класны кіраўнік выкладчык рускай мовы і літаратуры Клаўдзія Макаўчук, з 29 вучняў — 23 прэтэндуюць на чырвоны атэстат.

Выпускныя экзамены заканчваюцца. А пасля іх 1 верасня зноў зазвініць школьны званок, адкрываючы для першакласнікаў іх першы навучальны год.

**Сяргей САБАДАШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: урок беларускай мовы ў 6 "Б" класе вядзе выкладчык І. КАЗЬМІНА; дырэктар школы Л. ЛЕМЕШ; стэнд, прысвечаны першаму дырэктару школы, акадэміку Акадэміі навук Беларусі В. КУПРЭВІЧУ; на ўроку працы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## НАМ ПІШУЦЬ

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў НІЦГАЛЕ

Па запрашэнні работнікаў культуры Ніцгале (гарадок у латгальскім краі ў Латвіі) сюды наведаліся сябры беларускага таварыства "Уздым", ансамбль "Купалінка" і дзеці з настаўніцай Беларускай нядзельнай школы гэтага таварыства. У Ніцгальскім доме культуры, дзе на афішах было напісана "Дзень беларускай культуры", яны далі канцэрт перад паўнюткай залай.

Пасля канцэрта госці і гаспадары сабраліся за святочным сталом, дзе бліжэй пазнаёміліся, расказалі аб сабе. Настаўніца Беларускай нядзельнай школы Таццяна Бучэль падарыла для мясцовай бібліятэкі кнігі на беларускай мове.

Надоўга запомніцца таксама сумесная паездка па турыстычнай сцяжыне да Ніцгальскага каменя — самага вялікага ў Латвіі. Тут загадчык Ніцгальскага дома культуры Санта Скрупска расказала легенду аб гэтым камені. Завяршылася экскурсія паездкай у Ніцгальскі касцёл.

Трэба адзначыць, што аўтобус для гэтай паездкі (як і для мінулых — у Прэйлі і ў Ліваны) у якасці спонсарскай дапамогі выдзеліў дырэктар Даўгаўпілскага аўтапарка Аўрамій Міхайлаў.

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

У маі з афіцыйным візітам у Даўгаўпілсе былі прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг і прэм'ер-міністр Латвійскай Рэспублікі Гунтарс Крастс. Разам з беларускім прэм'ерам прыбылі міністр унутранных спраў Валянцін Агалец, намеснік міністра замежных спраў Ніна Мазай і іншыя афіцыйныя асобы. Пасля ўрачыстай сустрэчы С. Лінга на латвійска-беларускай граніцы адбылася сустрэча прэм'ераў тэт-а-тэт у рэзідэнцыі мэра Даўгаўпілса ў Сілэне. Затым адбыліся перамовы латвійскай і беларускай дэлегацый, наведванне завода "Даўтэкс", выставы сельскагаспадарчай тэхнікі і прадукцыі латгальскага рэгіёна, сустрэча з прадпрымальнікамі.

Было падпісана некалькі пагадненняў. Па-першае, паміж МУС дзвюх краін аб супрацоўніцтве ў барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Яно прадугледжвае абмен інфармацыяй і ўзаемную выдачу злачынцаў. Па-другое, падпісана міждзяржаўнае пагадненне аб супрацоўніцтве ў мытнай сферы, накіраванае на барацьбу з кантрабандай. Па-трэцяе, прэм'еры прыйшлі да пагаднення аб прынцыпах прыгранічнага супрацоўніцтва.

На прэс-канферэнцыі Сяргей Лінг адзначыў, што адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Латвійскай Рэспублікай пачалі паляпшацца як у эканамічным, так і ў палітычным плане. Беларускі прэм'ер, аднак, выказаў занепакоенасць, што з 80 тысяч беларусаў, якія жывуць у Латвіі, толькі чацвёртая частка атрымала латвійскае грамадзянства. Аб устаноўцы першых пагранічных слупоў на пункце Урбаны—Сілэне спадар Лінг, праводзячы паралель з празрыстымі граніцамі еўрапейскіх краін, сказаў: "Я б ахвотней выкапаў і выкінуў гэты слуп. Беларусы з латышамі да гэтага жылі дружна, і мне сапраўды хацелася б, каб гэты слуп не стаў перашкодай для нашага супрацоўніцтва. Я б хацеў, каб гэта была мяжа міру і нам нішто не перашкаджала падтрымліваць добрасуседскія кантакты".

У гонар высокіх гасцей мэрам Даўгаўпілса Аляксеем Відаўскім у яго рэзідэнцыі на беразе маляўнічага ляснога возера ў Сілэне быў арганізаваны ўрачысты прыём. На ім разам з іншымі высокімі асобамі былі генеральны консул Рэспублікі Беларусь у г. Даўгаўпілсе Васіль Марковіч, консул Валерый Сысоеў і старшыня беларускай суполкі "Уздым" у г. Даўгаўпілсе Станіслаў Валодзька.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г. Даўгаўпілс.

## З САКРЭТНЫХ АРХІВАЎ ГУЛАГа

# ЛИЧНОЕ ДЕЛО СЕРГЕЯ НОВИКА



"Утверждаю" Сов. секретно

**арк. 1**

Зам. начальника Управления МВД на Дальнем Севере полковник (подпіс) Желтухин

3.X.1953 г.

Постановление
(о приеме под надзор МВД)
11 сентября 1953 г.

г. Магадан

Я, уполномоченный УМВД на ДС лейт. Зыков, рассмотрев материалы в отношении Новик Сергея Михайловича, 1906 г. ур. д. Леоновичи Несвижского р-на Барановичской обл.

Нашел:

Новик, согласно наряда 9 Упр. МГБ СССР № 9/2 — 10482 от 28 февраля 1953 г. подлежит направлению в ссылку на поселение в район Колымы сроком на бессрочно.

Постановил:

Новик взять под надзор МВД с 25 августа 1953 года сроком на бессрочно определив ему место жительство ИГПУ.

о/упол. РО МВД ИГПУ
лейт (подпіс) Зыков

Верно. Начальник РО МВД ИГПУ
подполковник (подпіс) Максимов

"Согласны"
Начальник 9 отдела УМВД на Дальнем Севере подполковник (подпіс)

Шавелев.

**арк. 7**

Копия:

Получено от подготовляемого на вербовку "Б" 3/IX-53 г.

Докладная записка.

V. 27.VIII-53 года на рентгеноскопию органов грудной клетки явился только что освободившийся с Аляскитово ссыльно-поселенец Новик С. М. известный мне по лагерю Аляскитово, так как работали вместе в санчасти, он работал медстатистом, постоянно гордился и хвалился, что я мол за свою нацию, за белорусов и при Польше не вылезал с тюрьмы и был в ссылке, а теперь опять такая судьба, ну что же лучше честно умереть, чем быть подлецом для своего народа. По его рассказам и рассказам его земляков он был пропагандистом, вроде писателем, национальной идеи, очень ненавидел сотрудников МВД, большой подхалим. И при немцах с тюрьмы не вылезал, чем и гордится (как известный борец белорусского народа Западной Белоруссии).

Справка: Отпечатать в л/д. Новик, проживающего в Нере.
верно: (подпіс) Карпаў.

**арк. 25**
Вх. Н-83
3.12.54

Асобна высылаю лісты табе і Арыначцы, а такжа фатакарточкі.

Любая мая дочанька! Родная мая Зоінька! Гэты лісток прачытай сама, а пасьля перадай бабушцы.

Твой татка.

Дарагія!

Дзякую Вам за Ваш ліст і за памяць аба мне. Асабліва ж дзякую Вам усім за бацькаўскую апеку над маімі дарагімі дочанькамі — Арыначкай і Зоінькай, якія апынуліся без бацькоў. Дзякую за тое, што Вы замянілі маім дзецям бацькоў, што гадуеце і выхоўваеце іх. Віншую Вас з посьпехам Вашых дзяцей, што Вы адукавалі іх, далі ім спэцыяльнасць, як кажуць, у рукі, абяспечылі ім будучыню.

Дзякуй Вам за запросіны да сябе. Я прыехаць не магу, бо змушаны жыць тут у Азіі ў Якуціі. Я вельмі б хацеў пабачыць сваіх дзетак, бо пакінуў іх маленькімі, а цяпер яны ўжо вырaслі. Так крыўдна, што я пазбаўлены магчымасьці выхоўваць сваіх дзетак. Але нічога не парадзіш.

Раскажу цяпер аб Людцы.

Вайна застала мяне ў горадзе Гродна, дзе я ляжаў у шпіталі. На чацьверты дзень вайны я быў ранены ў галаву. Немцы нас адцялі і затрымалі ў акупацыі. Мы бачылі, як немцы б'юць нашых людзёў, паляць іх хаты, сёлы, забіраюць маёмасьць. І мы пачалі з імі змагацца. Я працаваў у падпольным антыфашысцкім камітэце. За гэта немцы каралі сьмерцю. Я параіўся з Людкай і выйшаў з дому, каб усе бачылі, што з сям'ёю ня жыву. Усё было абдумана загадзя. Я жыў у музэі. Вечарамі я прабіраўся да дому, прынасіў дзеткам грошы, а Людцы казаў, каб нікуды не хадзіла, калі мяне схопяць немцы. Ужо калі й буду цярпець, дык адзін, а сям'я будзе выратавана. Людка выратавала ад пагібелі 60 савецкіх дзяцей, якіх памясьціла ў дзіцячым доме. Аднойчы ў начы, як мы даведаліся, перайшлі беларуска-нямецкую мяжу трыста быўшых польскіх ахвіцэраў з падробленымі дакумэнтамі, каб рабіць агідную справу зьнішчэння нашых людзёў. Пачаліся масавыя растрэлы. Б. ахвіцэры і падахвіцэры паўлазілі ў паліцыю, гестапо. Арыначка і Зоінька знаюць такога пана Жултэк Вацлава Чэслававіча, якому калісь я выратаваў жыцьцё. І ён пайшоў да немцаў працаваць сьледавацелем так званага СД (гестапо).

— 25 лістапада 1943 года мяне арыштавалі (прыходзіў за мною Жултэк ды іншыя прадажныя шкуры). Я быў асуджаны на растрэл. Прысуд адразу ня быў выкананы, таму што я захварэў у вязніцы плямістым тыфам і ледзь не памёр. Людка ня вытрымала і прабіралася ў шпіталь з дзеткамі, ратавала, лячыла мяне. А шпікі няўсыпна сачылі за ёю. Аднойчы "сястра міласэрная", полька, данясла, што Людка пры мне з маёю сястрою Марусяй. Іх абедзьвух забралі, але неяк выпусьцілі. Калі мяне падлячылі і скіравалі ізноў у вязьніцу, каб выканаць прысуд, Людка ня вытрымала, пайшла да Жултэк прасіць, каб дапамог мяне вызваліць. А як жа ён будзе вызваляць, калі ён сам пасадзіў са сваімі калегамі? "Няхай гіне!" — сказаў Жултэк. Людка яму тады: "Ну, добра! Сёньня мы сядзім, а заўтра вы будзеце сядзець!" — А Совецкая Армія ўжо падыходзіла.

Жултэк схваціў Людку і пасадзіў у вязьніцу. 9 чэрвеня 1944 г. я сустрэўся з Людкай на вастрожным надворку, адкуль нас правезьлі за Баранавічы ў Колдычэво — лагер сьмерці. Там камэндантам быў немец, ягоны памочнік — немец й тлумач (перакладчык) немец, а рэшта ахоўнікаў — даўнейшыя ахвіцэры і падахвіцэры б. польскае арміі: Мацкевіч, Юзэф Фрончак і іншыя. Юзэф Фрончак у даўнешай Польшчы служыў ахоўнікам (надзірацелям) у Слонімскай турме. Вось гэтыя паны растралялі Людку ў ноч з 1 на 2 ліпеня 1944 г. проста ў лагеры, а мяне пагналі ў лес і на дзевятым кіламэтры за Слонімам пачалі страляць. Нас было 600 чалавек. Партызанскае саедыненіе брыгады імя Маршала Ракасоўскага з гэтае групы катаваных адбіла 140 чалавек і ў ліку тым апынуўся я.

Дзяржаўная камісія па разсьледаваньню зладзействаў захопнікаў у 9 магілах знайшла ў 1945 годзе шаснаццаць тысячаў трупаў закатаваных патрыётаў. Можа нехта з гэтых катаў жыве яшчэ і Вам давядзецца пачуць або сустрэцца з імі — дык памятайце, што яны забойцы Вашай дачкі, маёй жонкі, мацяры маіх дзетак. Арынка і Зоінька ведаюць аб гэтым, бо я ім пісаў. — Вельмі я рад, што мае дзяўчаткі добра вучацца. Толькі прашу Вы напамінайце ім, каб вучачыся ў польскай школе яны не забывалі роднай мовы — мовы іх бацькоў і дзядоў, каб памяталі аб сваім вялікім народзе і вялікай Радзіме, да якой яны, бязумоўна вярнуцца. Бывайце здаровы! Дзякую яшчэ раз Вам за апеку над маімі дзеткамі. Прашу падзякаваць, таксама п. Ойцу, Вашым дзецям і прывітаць іх ад мяне.

Буду старацца пісаць дзеткам часьцей, як толькі будзе магчымасьць.

З прывітаньнем Сяргей.

Председателю
Совета Министров
Советского Союза
Георгию Максимилиановичу Маленкову

Москва

Вот это письмо от моего зятя, в котором он описывает свою тяжёлую трагедию.

**арк. 28**

Гарусова Леокадия
Польша
Сталингруд, Мариацкая ул.
дом Н 33, кв. 4

ТУ ВХ МВД СССР
81 265
8 окт. 1954
Сталингруд, дня 29 IX 1954 г

Председателю
Совета Министров
Советского Союза
Георгию Максимилиановичу
Маленкову

Москва

Многоуважаемый Георгий Максимилианович. Простите меня Родной, что так осмеливаюсь к Вам обратиться, но поверте что мое сердце, бедной, старой матери, переполнено глубоким почтением и преданностью к Вам.

Моя дочь, Людмила Ильинична и ее муж Сергей Михайлович Новик проживали в Слониме Барановичской области.

Во время оккупации мой зять Сергей Новик был арестован немцами и осужден на расстрел.

Моя дочь Людочка, стараясь его спасти обращалась с прозьбою к людям, от которых это зависело, которые были белорусcами, но во время окупации сделались великими немцами, какие то Желтко и Ситко. Прося их она выразилась: "Сегодня мы в несчастье, а завтра это может вас встретить". Об этом рассказывала мне моя внучка Ириночка, тогда 7-летняя девочка, которая вместе с матерью была у этого Желтка. За эти слова моя дочь была арестована и вывезена в лагерь смерти Колдычево, около Баранович, где находился и ее муж. В конце июня 1944 г. моя доченька была расстреляна, а зять чудом спасся благодаря приходу Красной Армии и вернулся в Слоним к своим деткам и к своей старой матери, которая тогда ещё жила. Не долго однако радовался он свободой. Был он арестован русскими властями и сослан в Сибирь. Подробностей этого случая я не знаю, но моя внучка Ирина, когда приехала к нам в Сталингруд в 1945 году рассказывала, что папочка посорился с одной женщиной, которая воровала овощи с их огорода и которая ему угрожала, что она имеет знакомство и сделает так, что он из тюрьмы не вылезет. Я предпологаю, что мой зять действительно пал жертвою клеветы. Мы долго не знали, где он находится. Его мать с горя умерла, а сестра Маруся Капитончик живет в Слониме и в прошлом году написала нам, что получила весточку от Сережи из СССР, Нера, Хабаровского, Поликлинника. Теперь и мы получаем от него письма.

Дорогой товарищь!

Я бедная, старая женщина не могу понять, как это могло случиться, чтобы тот, который столько выстрадал от гилеровцев и освобожденный спасительницей Красной Армией, попал в Сибирь, где уже 9 лет пребывает!

Умоляю Вас Милостивый Отец, взгляните в эту трагедию! Велите расследовать это судопроизводство! Освободите моего несчастного зятя. Пусть он вернется к своим деткам и своим родным. Не я только с внучатами ожидаем Вашего милосердия, но все мои родные и знакомые, а также члены Лиги Женщин, к которым я принадлежу, с большим заинтересованием следят за результатом моего обращения к Вам!

Мы крепко веруем, что Ваше доброе сердце смилуется над нами, ведь слава о Вашей доброте и великодушии идет светлою струею и у нас в Польше!

Остаюсь с верою и надеждою на Ваш, радостный для меня, ответ!

Гарусова Леокадия.

**арк. 32.**

Спецкоменданту
тов. Карпову
пос. Нера.

Новик Сергея Михайловича,
Нера, Поликлиника

Заявление

На вопрос, предложенный мне Вами заявляю:

В Польшу ехать я не собирался и не собираюсь.

С. Новик

Нера, 27-1-1955 г.

**арк. 45**

Коменданту Спецкомендатуры
пос. Нера
Ст. лейтенанту т. Карпову,
от Новик Сергея Михайловича,
Нера, Поликлиника

Заявление.

На Ваше предложение, сделанное мне, как инвалиду второй группы, выехать на поселение в Кокчетавскую область, отказываюсь, т. к. там у меня нет ни родных, ни знакомых.

Сергей Новик

Нера, 3 IX-1955 г.

**арк. 49**

Расписка

Дана в спецкомендатуру пос. Нера в том, что я Новик Сергей Мих. с сего числа от ссылки на поселение освобожден и получил справку за № 3/2-1218 от "19" марта 1956 года на получение паспорта, в чем и даю настоящую расписку.

С. Новик

Расписку отобрал: (подпіс)
24.03.1956 г.

# «МЫ ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАІМ»



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

штаба генерал-маёр В. Клімаўскіх, член Ваеннага савета карпусны камісар А. Фаміных) прыкрывала напрамак на ўчастку ад паўднёвай мяжы Літоўскай ССР да паўночнай мяжы Украінскай ССР. ЗахАВА была адной з самых моцных акруг. Па сваіму складу яна саступала толькі Кіеўскай Асобай ваеннай акрузе. У ёй налічвалася каля 672 тысяч чалавек, 10 087 гармат і мінамётаў, 2 201 танк і 1 909 самалётаў. Гэта складала чвэрць войск, сканцэнтраваных у заходніх акругах.

Да пачатку вайны большасць злучэнняў знаходзіліся ў стадыі рэарганізацыі, пераўзбраення і фарміравання. З шасці ствараемых механізаваных карпусоў амаль поўнасцю меў матэрыяльную частку толькі адзін. Астатнія пяць былі ўкамплектаваны на 5—50 працэнтаў танкамі БТ і Т-26. Тры з чатырох матарызаваных дывізій не мелі танкаў, аўтатранспарту і сродкаў цягі для артылерыі. 17-ты і 20-ты механізаваныя карпусы фактычна былі без танкаў. Нягледзячы на трывожнае становішча, камандаванне акругі не адмяніла збораў артылерыі. Фактычна злучэнні 3-й і 10-й армій сустрэлі вайну без зенітнага прыкрыцця, таму што артылерыя знаходзілася на акруговым палігоне.

Аналіз плана абароны дзяржаўнай граніцы паказвае, што асноўная колькасць злучэнняў акругі канцэнтравалася ў Беластоцкім выступе. З 26 дывізій першага эшалона тут разгортвалася 19, у тым ліку ўсе танкавыя і механізаваныя.

У першы дзень вайны 4-я танкавая група генерала Гепнера, якая ўдарыла па праваму флангу 3-й арміі ЗахАВА, прабіла глыбокую брэш, куды ўварваўся танкавы корпус Манштэйна. Да вечара тры савецкія дывізіі былі рассеяны, а пяць іншых панеслі страты да 70 працэнтаў асабовага саставу. 14-ты механізаваны корпус, які дыслацыраваўся ў раёне Пружаны—Кобрын, падвергся такому магутнаму ўдару нямецкай авіяцыі, што нават не паспеў разгрупавацца і быў поўнасцю знішчаны. 13-ты механізаваны корпус, які знаходзіўся бліжэй да мяжы і ўжо вечарам пачаў бой, з-за недахопу гаручага, боепрыпасаў і тэхнічных паломак не змог арганізаваць досыць магутны ўдар і трапіў у акружэнне. У раёне Налібоцкай пушчы ў акружэнне трапілі большасць часцей 3-й, 10-й і частка сіл 13-й арміі. Аналагічны лёс спасціг большасць часцей акругі, пра што сведчыць наступны дакумент:

Аператыўная зводка штаба 4-й арміі Заходняга фронту № 01 "24 июня 1941 г."

1. Части 4-й армии после бандитского налета противника отходили, оказывая сопротивление, по рубежам на Картуз-Береза и к 18.00 24.6 отошли с остатками своих корпусов на рубеж р. Щара, где закрепляются для оказания дальнейшего сопротивления.
2. Остатки частей 28 ск, 6 и 42 сд после оборонительных боев... не имеют боеспособности.
3. 75 сд — сведений нет...
4. 55 сд... не выдержала наступления мотомехчастей противника при сильной авиационной подготовке, начала отход...
5. 14 мк, активно обороняясь, переходя неоднократно в контратаки, понес большие потери в материальной части и личном составе и к 25.6 не представляет боеспособного соединения...
6. С 49 сд с момента выхода по тревоге связи нет...

Отходящие беспорядочно подразделения, а иногда и части, приходится останавливать и поворачивать на фронт командирам всех степеней, начиная от командующего армией, хотя эти меры, несмотря даже на применение оружия, должного эффекта не дали...

Начальник штаба 4-й армии полковник Сандалов".

"Войну я начал с первого дня, — вспоминает ветеран войны П. Чаплин. — Служил тогда на действительной в Белоруссии, неподалеку от границы. Позже участвовал в обороне Москвы, в операции "Багратион", в штурме Кенигсберга и Пиллау.

Нападение врага застало нас непростительно врасплох. Командиры в отпусках. Оружие в глубокой консервации, на складах. Техника разобрана. Баки с самолетов на промывке...

Наша боевая мощь (она была!) не нашла должного применения, не была разумно и вовремя пущена в дело. Пока "Иван искал шапку", враг крушил, громил, резал, кромсал наши участки, если можно так назвать, "обороны", вторгался в глубь страны. Наши воины дрались отчаянно, смело, насмерть. Вступали в рукопашные схватки, разили пулей, штыком, прикладом. Вгрызались зубами! И такие случаи были...

Но все это — эпизоды. Враг был вооружен до зубов. Немцы с автоматами, а мы зачастую с учебными винтовками, и то одна на двоих... В отчаянии негодовали: "Где командование?! Куда смотрит?!" Иные не выдерживали, роптали, робко вопрошали: "Неужели измена?" Стиснув зубы с болью в сердце мы отходили, отступали, теряли своих друзей, приносили многочисленные жертвы".

Са зводкі Савінфармбюро 24 чэрвеня 1941 года.

"Войска Западного фронта продолжали тяжелые оборонительные бои, отражали атаки превосходящих сил противника на лидском и барановичском направлениях. Противник глубоко охватил белостокскую группировку фронта с севера и юга, оттеснил войска 3-й и 4-й армий на реке Котра и Щара. 10-я армия продолжала упорные бои на реках Бемжа и Нарев, прикрывая подступы к Белостоку. В течение дня в полосе фронта противник занял города Эйшишки, Радунь, Озеры, Блудень, Беловежа.

В результате неблагоприятно сложившейся обстановки на правом фланге Западного фронта противнику удалось создать условия для успешного наступления в направлении столицы Белорусской ССР — Минска. Одновременно вражеские войска, действовавшие в направлении Барановичи, Слуцк, захватили с ходу рубеж р. Щара и быстро продвинулись по шоссе на Слуцк".

К канцу чацвёртага дня вайны як на правым, так і на левым крыле Заходняга фронту нямецкія танкавыя злучэнні прайшлі ў глыб тэрыторыі Беларусі да 200 кіламетраў. Ужо 26 чэрвеня перадавыя атрады 2-й і 3-й нямецкіх танкавых груп прарваліся на подступы да Мінска. Тут яны былі сустрэты спешна выстаўленымі на рубеж Мінскага ўмацаванага раёна злучэннямі 2-га і 44-га карпусоў, кіраўніцтва якімі ажыццяўляла ўпраўленне 13-й арміі.

Разгарнуўшыся на фронце больш 100 кіламетраў, яны на працягу 26—28 чэрвеня паспяхова адбівалі атакі танкавых часцей праціўніка. Пасля двухдзённых баёў на подступах да Мінска ўдарным групоўкам 3-й і 2-й нямецкіх танкавых груп удалося на шэрагу ўчасткаў прарваць абарону 13-й арміі. 28 чэрвеня яны злучыліся ў раёне Мінска, перахапіўшы шляхі адыходу большасці часцей 3-й і 10-й армій. На захад ад Мінска, у вялікім раёне, цэнтрам якога была Налібоцкая пушча, апынулася ў акружэнні большасць дывізій 3-й і 10-й армій, а таксама частка сіл 13-й арміі. З акружэння ўдалося вырвацца не больш, як 10 працэнтам асабовага саставу. Сёння ў гэтым раёне застаецца непахаваным прах больш чым 50 тысяч нашых воінаў.

На подступах да Мінска палегла ў баях не менш 4 тысяч воінаў 100-й стралковай дывізіі, астанкі якіх раскіданы ў раёне Астрашыцкага Гарадка.

У пачатковы перыяд вайны, па афіцыйных даных, Заходні фронт панёс вялікія страты ў людзях і тэхніцы. З 44 дывізій 24 былі разгромлены, астатнія 20 злучэнняў страцілі ў сярэднім палавіну сіл і сродкаў. Ваенна-паветраныя сілы фронту — 1 797 самалётаў (80 працэнтаў штатнай колькасці).

На тэрыторыі Беларусі ў першыя дні вайны ў палон трапіла не менш 400 тысяч ваеннаслужачых. Агульныя страты асабовага саставу Заходняга фронту дасягнулі 500 тысяч чалавек (77 працэнтаў штатнага саставу). Калі ўлічыць, што ў першыя дні вайны ў дзеючую армію было мабілізавана звыш 400 тысяч чалавек і большая частка з іх загінула, так і не трапіўшы ні ў якія спісы, то можна меркаваць, што колькасць загінуўшых перавысіць 650 тысяч. І гэта без уліку тых, хто загінуў у палоне, у партызанскіх атрадах, падполлі і г. д. Дакладную лічбу загінуўшых у пачатку вайны на тэрыторыі Беларусі ўстанавіць ужо немагчыма, як і месцы масавых пахаванняў.

Дзесяцігоддзямі, літаральна да нядаўняга часу, ні ў адной крыніцы немагчыма было знайсці звесткі аб нашых стратах у гады вайны. Няма дакладнага адказу на гэтае пытанне і сёння. Хаця нас спрабавалі і спрабуюць пераканаць, што ўлік загінуўшых вёўся дакладна і заўсёды.

"Командующий войсками группы армий "Центр"

Штаб-квартира 8 июля 1941 г.

ПРИКАЗ

Сражение в районе Белосток—Минск завершено. Войска группы армий сражались с четырьмя русскими армиями, в состав которых входило около 32 стрелковых, 8 танковых дивизий, 6 механизированных бригад и 3 кавалерийские дивизии. Из них разгромлено:

22 стрелковые дивизии, 7 танковых дивизий, 6 мотомеханизированных бригад, 3 кавалерийские дивизии.

Боевая мощь остальных соединений, которым удалось избежать окружения, также значительно ослаблена. Потери противника в живой силе очень велики.

Подсчет пленных и трофеев к сегодняшнему дню выявил:

287 804 пленных, в том числе несколько командиров корпусов и дивизий, 2 585 захваченных или уничтоженных танков, 1 449 орудий, 246 самолетов, множество ручного оружия, боеприпасов, транспортных средств, склады продовольствия и горючего.

Наши потери были не выше, чем те, какие готовы понести мужественные войска...

Фон Бок, генерал-фельдмаршал".

Сапраўды, 15.03.41 напярэдадні вайны нарком абароны СССР падпісаў загад, які ўводзіў у дзеянне палажэнне "Аб персанальным уліку страт і пахаванні загінуўшага асабовага саставу Чырвонай Арміі ў ваенны час". На падставе гэтага дакумента да 1.05.41 увесь асабовы састаў Чырвонай Арміі атрымаў медальёны з укладнымі лісткамі, у якіх указваліся кароткія біяграфічныя даныя і месца жыхарства родных.

Укладыш запаўняўся ў двух экземплярах. Адзін у выпадку гібелі яго ўладальніка вымаўся і захоўваўся ў штабе часці ці лячэбнай установе, другі ж, укладзены ў медальён, заставаўся пры забітым ці памерлым ад ран. Выяўленне на месцах баёў медальёнаў з адным укладышам сведчыць, што данае пахаванне не з'яўляецца безыменным.

Натуральна, выканаць патрабаванні гэтага загаду аб парадку пахавання загінуўшых у баях ва ўмовах, калі тэмпы наступлення нямецкіх войск дасягалі звыш 50 кіламетраў у суткі, нават пад пагрозай расстрэлу было немагчыма. І па розных крыніцах, на тэрыторыі нашай краіны застаецца непахаванымі ад 500 000 да 1 мільёна салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі.

Колькі слоў сказана аб неабходнасці ўвекавечвання памяці загінуўшых абаронцаў Радзімы і ахвяр вайны, колькі прайшло юбілеяў, колькі змянілася кіраўнікоў, колькі прайшло вахт памяці! Можна было б думаць, што загінуўшых удалося вырваць з палону забыцця. Але гэта толькі на першы погляд. З выхадам у свет 21.12.92 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 763 "Аб увекавечванні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайнаў", а таксама стварэннем адпаведнага ўпраўлення пры Міністэрстве абароны і спецыяльнага воінскага падраздзялення па правядзенні гэтых работ здавалася, што праблему можна вырашыць. Аднак гэтага не адбылося.

Стварэнне гэтых афіцыйных структур і перш за ўсё іх дзеянні, накіраваныя на ліквідацыю пошукавага руху ў Беларусі можа прывесці ўжо ў бліжэйшы час да сумных вынікаў. Ігнаруюцца тыя людзі, якія гады жыцця прысвяцілі пошуку прапаўшых без вестак. Іх не так многа, гэтых людзей, маладых і старых, але з абвостраным сумленнем. Яны знайшлі адзін аднаго, стварылі пошукавыя атрады, а нядаўна аб'ядналіся ў Беларускую асацыяцыю пошуку і ўвекавечвання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны "Пошук". Гэтыя людзі ідуць у паход, зарабіўшы адгул, купляюць адзенне і ежу для паходаў, выкройваюць грошы з зарплаты, гадамі ў час водпускаў вядуць пошук, не лічачыся ні з чым.

Не адна тысяча імёнаў без вестак прапаўшых устаноўлена імі. Узнагародай ім служаць пісьмы і слёзы ўдзячных сваякоў, якія даведаліся нарэшце аб сапраўдным лёсе воіна.

У 50-х—70-х гадах партыйным органам здавалася, што наяўнасць вялікай колькасці пахаванняў можа навесці на думку: а чаму столькі нашых воінаў загінула ў баях? Пачыналася кампанія (як правіла, да чарговага юбілею) па звядзенню асобных пахаванняў у брацкія магілы. У выніку фактычна былі абязлічаны астанкі дзесяткаў тысяч загінуўшых. У прыватнасці, на тэрыторыі толькі Кастрычніцкага сельсавета Віцебскай вобласці ў тыя гады было перанесена звыш 50 брацкіх магіл, многія з якіх з'яўляліся дывізіённымі могілкамі.

Для ўпарадкавання аховы месцаў пахаванняў памянёнай пастановай Саўміна было вызначана, што ўсе віды работ, якія могуць стварыць пагрозу для воінскіх пахаванняў, забаронены. Што ж адбываецца на самай справе? Вядома, гэтая пастанова, як правіла, не выконваецца. Так адбылося з пахаваннем, знойдзеным у Вілейцы ў канцы 1994 года, калі астанкі загінуўшых у перыяд акупацыі і расстраляных НКУС у перадваенныя гады сабралі ў скрыні і перапахавалі на сельскіх могілках. За апошнія пяць гадоў членамі грамадскіх пошукавых груп, атрадаў і аб'яднанняў былі знойдзены астанкі больш 3 тысяч загінуўшых воінаў. За перыяд з 1995 па 1997 год 52-м асобным спецыялізаваным пошукавым батальёнам былі знойдзены астанкі 13 761 ахвяры вайны. У 1998 годзе за 1,5 месяца працы выяўлена 244. Многа гэта ці мала? Калі ўлічыць, што многія пахаванні 1941 года да гэтага часу застаюцца безыменнымі, а сотні тысяч нашых воінаў, не лічачы мірнага насельніцтва, не пахаваны, то такімі тэмпамі гэтую работу трэба будзе праводзіць звыш 200 гадоў.

Вайна не скончана, пакуль не пахаваны апошні загінуўшы. Калі гэта так, Вялікая Айчынная для Беларусі скончыцца вельмі няскора.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

# ПЕРШЫ АЙЧЫННЫ СЕРЫЯЛ

На «Тэлефільме» завершана праца над стварэннем першага ў нашай краіне серыяла. Гэтая 33-серыйная стужка працягласцю каля 28 гадзін створана рэжысёрам Уладзімірам Арловым па сцэнарыі Уладзіміра Халіпа паводле рамана Стэфана Жэромскага "Верная рака". Музыку да фільма напісаў кампазітар Уладзімір Солтан. Здымачная група пачала працу над фільмам у 1994 годзе. І вось сёлета, 25 траўня, адбылася яго прэзентацыя, якую ладзіў Мінскі тэатр-студыя кінаакцёра. Па сутнасці, гэта быў аўтарскі вечар рэжысёра Уладзіміра Арлова — майстра беларускага кінематографа, шырокую вядомасць якому прынеслі дакументальныя стужкі пра нашых сучаснікаў, знакамітых людзей краіны: урачоў, пісьменнікаў, мастакоў і іншых. Новая праца Уладзіміра Арлова "Пракляты ўтульны дом" — пра каханне, як, зрэшты, большасць серыялаў. У аснове фільма — гісторыя кахання дзяўчыны да паўстанца на фоне падзей, якія мелі месца на Гродзеншчыне падчас вызвольнага паўстання 1863 года. У фільме здымалася 56 акцёраў. Сярод іх — народныя артысты Расціслаў Янкоўскі, Данат Баніёніс, Віктар Тарасаў, а таксама маладыя, мала вядомыя. Надзвычай удалым, на наш погляд, атрымаўся дэбют актрысы Алены Мазговай у ролі Саламеі, галоўнай жаночай ролі ў фільме. Шкада, што за гэты час творчая група страціла сем стваральнікаў гэтай карціны. У іх ліку — кампазітар Уладзімір Солтан, артысты Іосіф Ражба і Расціслаў Шмыроў, музыка Леў Зайдэс. Іх памяць была ўшанавана хвілінай маўчання.

На прэзентацыі фільма быў паказаны спецыяльны мантаж з розных серый. Уладзімір Арлоў падзяліўся ўспамінамі аб перажытым, прыгадаў шмат цікавых гумарыстычных сітуацый, якія мелі месца падчас здымкаў. Так што аматараў блакітнага экрана неўзабаве чакае наш айчынны мастацкі тэлесерыял.

Ірына ЛЯКСЕЕВА.



**На эксперыментальнай сцэне Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску адбылася прэм'ера спектакля "Сола для гадзінніка з боем" па п'есе Освальда Заградніка. Рэжысёр Валерый Маслюк заняў у сваім спектаклі народных артыстаў Беларусі Леаніда Трушко, Тадэвуша Кокштыса, заслужаных артыстаў Беларусі Алеся Лабанка, Людмілу Пісараву і Тамару Шашкіну.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Сола для гадзінніка з боем".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# БЕЛАРУСКІЯ ВЁРСТЫ ШАТЛАНДСКАГА ДВАРАНІНА СЕН-КЛЕРА

На самым пачатку паўстання 1863 года найбліжэйшы паплечнік Каліноўскага Ахілес Банольдзі, якога сябры за паходжанне, тэмперамент і артыстызм звалі Італьянцам, быў вымушаны выехаць за мяжу. Скарыстаўшы гэта, Каліноўскі прызначыў яго замежным прадстаўніком віленскага паўстанцкага цэнтра. Адна з галоўных задач, якія перад ім ставіліся, — закупка зброі, у яго распараджэнні была на гэтыя мэты даволі вялікая сума грошай. Пасля пераходу ўлады ў паўстанцкіх структурах да больш умеркаваных "белых" мандат Банольдзі быў захаваны. Вядомы цікавы ліст паўстанцкага Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы з Вільні ў Парыж да Банольдзі ад 8(20) красавіка 1863 года. Размова ў ім наперш пра тую ж да зарэзу патрэбную зброю і іншыя пільныя клопаты паўстанцаў, але асобным пунктам стаяць такія словы: "Аддзел звяртаецца да грамадзяніна Сен-Клера, які жадае прысвяціць сваё выдатныя здольнасці святой справе (паўстанню. — **Г. К.**), каб неадкладна прыехаў у Вільню і паведаміў Аддзелу, дзе і якім чынам ён можа з карысцю служыць айчыне. Тады атрымае тут прызначэнне ў войска. Трэба спяшацца, бо сітуацыя спрыяльная, шчыраванне, асабліва ў Самагіціі (Жамойці. — **Г. К.**), мацнее з кожным днём, але нястача камандзіраў і зброі замаруджваюць справу".

Бачым, што нейкі чужаземец (прынамсі так гучыць прозвішча) адшукаў Банольдзі ў Парыжы і выказаў жаданне далучыцца да літоўска-беларускага паўстання. Той напісаў пра гэта ў віленскі Аддзел і атрымаў адпаведную санкцыю. Працытаваны намі дакумент двойчы публікаваўся (у 1913 і 1965 гадах), але публікатары нічога не маглі да гэтага дадаць і не ведалі, хто такі Сен-Клер (у абодвух выпадках пазначана ў самай агульнай, няпэўнай форме: "Сен-Клер, заграничный польский агент" або "Сен-Клер — иностранец, желавший принять участие в восстании").

Між тым пра чалавека з гэтым адметным прозвішчам і яго беларуска-літоўскія сувязі можна расказаць нямала. Найперш успамінаецца даўняя зацемка-нататка вядомага гісторыка Анатоля Смірнова ў ЛіМе 1959 года пад назвай "Незвычайны талент". У зацемцы — цікавая гісторыя.

Час і месца дзеяння — эпоха прыгонніцтва і мікалаеўскага царавання, часы Багрыма і Чачота (імёны-сімвалы можна называць і называць), Гродзеншчына, мястэчка Бераставіца, якое належала тады графіні Касакоўскай (у ЛіМе — графіні Касцялкоўскай, але гэта, як мы пераканаемся, нейкі недагляд, магчыма, памылка друку). З дачкой уладальніцы быў жанаты шатландскі дваранін Сен-Клер.

Прыкладна каля 1837 года ён прыехаў з жонкай у цешчын маёнтак і звярнуў увагу на сына мясцовага цесляра, які займаўся афарбоўкай лаваў і вазаў па касцёлах. І Сен-Клер, і яго жонка былі вялікімі аматарамі жывапісу, любілі бавіць час за мальбертам і ўзялі да сябе ўвішнага хлопца рыхтаваць фарбы, прыслугоўваць на эцюдах. Два месяцы гасцявалі маладыя ў Берастаўіцы і паехалі, пакінуўшы добрую памяць. Жылі ў Літве, дзе ў Касакоўскіх таксама былі маёнткі, і за мяжой.

Праз пяць гадоў, вярнуўшыся з Англіі, Сен-Клер зноў зазірнуў у Берастаўіцу і са здзіўленнем убачыў, што Нікановіч (такое прозвішча юнака) зняў копіі з усіх жывапісных палотнаў, якія былі ў багатым маёнтку. Ды яшчэ як удала! Яны свабодна маглі сапернічаць з арыгіналамі.

28 студзеня 1843 года Сен-Клер, будучы ў Вільні, спецыяльным пісьмом паведаміў пра гэты цуд тагачаснаму генерал-губернатару Міркавічу.

"Пане генерал! — пісаў усхваляваны шатландзец. — Я асмельваюся прасіць аб апецы над маладым селянінам, які праяўляе выдатныя здольнасці ў галіне жывапісу. Гэта тым больш дзіўна, што ён ніколі не вучыўся жывапісу і малюнку. Аднак малюнак яго чысты і правільны, а фарбы ён кладзе з празрыстай лёгкасцю, сам здагадваючыся, калі так можна сказаць, пра сакрэты мастацтва, таямніцы святлаценю.

Тое, што ён пераняў ад нас на працягу двух месяцаў нашага знаходжання ў Берастаўіцы — уся яго навука, — сцвярджаў Сен-Клер. — З таго часу ён упарта і шмат працаваў... Летась я вярнуўся з Англіі і быў здзіўлены цудоўным прагрэсам гэтага юнака. Лічу сваім абавязкам паведаміць пра гэта вашаму правасхадзіцельству і прасіць вас звярнуць на яго ўвагу, узяць пад ласкавую апеку гэтага юнага мастака, які пад добрым кіраўніцтвам можа стаць геніем, славай Расіі.

Я бачыў першакласныя сусветныя галерэі, а ў іх мастакоў, якія скончылі акадэміі... я назіраў, з якімі цяжкасцямі яны ў сваёй рабоце дабіваліся вынікаў не такіх выдатных, больш пасрэдных, чым той чалавек, на якога я звяртаю вашу ўвагу. Маю гонар і інш. Аляксандр Бовэ Сент-Клер. Вільня, 28 студзеня 1843 года".

Энтузіязм Сен-Клера перадаўся сановіку Міркавічу, які загадаў даставіць Нікановіча ў Вільню, каб асабіста з ім пазнаёміцца і пераканацца ў яго здольнасцях. Мастаку з народа нападжваецца своеасаблівы экзамен з дапамогай віленскіх знаўцаў жывапісу. Хоць лепшыя часы віленскай мастацкай школы мінулі, але як прафесійных мастакоў, так і шматлікіх аматараў мастацтва ў Вільні заўсёды ставала. Так што праверка была строгая, патрабавальная. І вынікі — выдатныя. У красавіку 1843 года Міркавіч пісаў у Пецярбург царскаму генерал-ад'ютанту Кавеліну: "...шатландскі дваранін Бовэ Сент-Клер, які жыве ў Віленскай губерні, давёў да майго ведама, што адзін вольнаадпушчаны селянін цешчы яго выяўляе настолькі незвычайны талент у жывапісе, што калі даць яму належны кірунак, дык з яго выйдзе мастак геніяльны, які зробіць гонар Расіі". Далей пра экзамен: "Выбраўшы некалькі карцін з Веркаўскай галерэі князя Вітгенштэйна, я даручыў яму зняць з іх копіі ў асабістых маіх пакоях, каб самому пераканацца ў яго мастацтве".

Паступова размова пераводзіцца ў звыклае для адміністратара дзелавое, практычнае рэчышча: "Творы яго да такой ступені здзівілі не толькі мяне, але і ўсіх вядомых аматараў і знаўцаў жывапісу, што я не мог не прызнаць яго сапраўды заслугоўваючым дастаўлення яму сродкаў да вывучэння жывапісу сістэматычным шляхам...

Імя гэтага селяніна Восіп Мацвееў Нікановіч, ад роду яму 25 год, паводзін выдатных. Ураджэнец Гродзенскай губерні і павета, мястэчка Берастаўіцы. Ён быў прыгонным графіні Касакоўскай, якая, паважаючы яго талент, дала яму вольную 26 чэрвеня 1841 года...

Прыкладзенае пры гэтым пісьмо пана Сент-Клера тлумачыць вашаму правасхадзіцельству падрабязнасці цудоўнага і хуткага пераходу гэтага чалавека ад малярнага да мастацкага пэндзля, без усякага кіраўніцтва і дапамогі, сілай захаплення і таленту.

Але далейшаму развіццю гэтага таленту, які падае бліскучыя надзеі, жабрацтва яго ставіць непераадольную перашкоду..."

Міркавіч прасіў далажыць пра незвычайнага самародка гасудару імператару і даць магчымасць Нікановічу вучыцца ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

Пра далейшы лёс Нікановіча вядома мала. У "Сборнике материалов для истории императорской С.-Петербургской академии художеств за сто лет ее существования" (ч. 3, 1866) удалося адшукаць запіс аб тым, што ў 1850 годзе за прадстаўленыя працы — партрэт і эцюд з натуры — савет акадэміі надаў "вольнопрходящему" вучню Восіпу Нікановічу званне "неклассного художника". Ён стаў прафесіяналам, хоць вялікай славы, здаецца, так і не здабыў. Штосьці перашкодзіла яму рэалізаваць у поўнай меры свой несумненны талент ("Колькі талентаў звялося..." — Я. Колас). І ўсё ж выпадак гэты, асабліва бліскучы дэбют мастака-самародка, сведчыць аб значным духоўным патэнцыяле нашага народа.

А па-другое, ён, гэты выпадак, вельмі добра характарызуе самога Сен-Клера, яго адкрытае сэрца і гатоўнасць памагаць людзям незалежна ад іх паходжання.

Пра незвычайныя якасці Сен-Клера шмат расказала тагачасная паэтка і мемуарыстка Габрыеля Пузына ў сваіх вядомых успамінах "У Вільні і літоўскіх дварах" (1928). "Голас Радзімы" ўжо пісаў пра Пузыну і яе мемуары ў лютым — сакавіку 1997 года. Дык вось, жонка Сен-Клера была сваячкай мемуарысткі, таму Габрыеля мела магчымасць блізка з ім пазнаёміцца, грунтоўна прыглядзецца да яго.

Упершыню Сен-Клер з'яўляецца ў мемуарнай хроніцы Пузыны пад 1835 годам, мабыць, неўзабаве пасля таго, як шчаслівая жонка прывезла з-за мяжы свайго абранніка. Можна сказаць, што шатландзец выклікаў тут цэлы фурор. "Галоўным "віленскім львом", — чытаем у мемуарах, — быў на той час англічанін-шатландзец дэ Бовэ Сен-Клер, які чатыры гады таму ажаніўся з польскай графіняй Касакоўскай. У важных выпадках, на прэзентацыях (гэтае моднае цяпер у нас слова, выходзіць, вельмі старое. — **Г. К.**), афіцыйных балях і абедах выступаў ён у нацыянальным касцюме горца, які складаўся, як вядома, з чорнай курткі, спаднічкі ў клетку і чаравікаў з высокай шнуроўкай крыжам; пледнакідку, дапасаваную колерам да спаднічкі, перакідваў праз плячо, спераду ў яго была барсучыная сумка, на поясе кінжал, а на шарсцяной шапачцы меў піхтавую галінку, эмблему ці знак свайго клана". Яшчэ большым арыгіналам быў яго малодшы брат Джэймс, марак, які не апранаўся па-шатландску, затое ў сямейным коле без цырымоній клаў ногі на стол, заяўляючы, што так яму зручна; па-французску той Джэймс, абвеяны вятрамі ўсіх мораў, — ні бум-бум, таму на балях запрашаў паненак танцаваць на мігі: адзін палец — першая кадрыль, два пальцы — другая.

Джэймс з мемуараў адразу ж знікае, мусіць, зноў пакліканы марскімі стыхіямі. Затое Аляксандр астаецца надоўга. У віленскіх салонах Сен-Клер быў, што называецца, нарасхват, пабываў ён і ў сям'і Пузыны. "Цётка наша Касакоўская, — занатавала мемуарыстка, — прывезла да мамы свайго зяця-шатландца, аднак гэтым разам апранутага не па-шатландску, і мы адразу яго палюбілі за шчырасць. Жонка лічыла яго верхам пекнаты і дасканаласці. Сапраўды, быў ён пекны і малады, маляваў някепска, як для аматара, а спяваў цудоўна, зусім, як артыст. Пазнаёмілася з ім панна Пелагея ў Флярэнцыі і пакахала спярша за барытон, калі ён спяваў за сцяной пад гітару, потым у карцціннай галерэі за маляванне і, нарэшце, на балі за танцы. У давяршэнне ўсяго даведалася, што ён каталік, і, натхнёная раманамі Вальтэра Скота, аддала яму сваю руку. Сужэнства іх было вельмі шчаслівае, хоць яна гадоў на дзевяць старэйшая, раўнівая і непрыгожая, затое сардэчная і разумная".

І яшчэ адзін разумлівы, аналітычны запіс прыметлівай паненкі: "...наш новы кузен Сен-Клер не саступае палякам і кавалерам у жывасці танца. Праўда, на англійскі лад падскоквае ў мазурцы, але вальсуе дасканала. Адразу відаць у ім чужаземца, але калі нягнуткасць паставы, правільныя рысы, цвёрдая мова, схільнасць да кідкіх колераў выдаюць у ім англічаніна, дык чорныя валасы, густа зарослы твар, жвавасць вачэй і цудоўнае спяванне прымушаюць думаць, што ён італьянец. Цётка Пелагея не спускае з мужа вачэй ад вялікага да яго кахання, а крыху і з раўнасці. Аднак дазваляе яму танцаваць, бавіцца і спяваць з намі, таму спяваем з ім пры кожнай сустрэчы італьянскія дуэты, якія ён нам у вялікім штамбуху дорыць, а стары італьянец Брамаці буйным почыркам перапісвае. Хрэсьбіны яго першынца Стася былі добрай нагодай зноў апрануцца ў нацыянальны строй шатландца. Фамільны абед збірае ўсіх сваякоў, а гаспадар, седзячы ў сваёй накідцы на чале стала, кроіць ростбіф і запівае на дэсерт "Праў, Брытанія".

Генадзь КІСЯЛЕЎ

(Заканчэнне будзе).

# УРАЖАННЕ АД НАВЕДВАННЯ МУЗЕЯ

Музеі, архівы, бібліятэкі — асноўныя захавальнікі гістарычнай памяці народа. Іх стан — найяскравейшы паказчык узроўню культуры грамадства. У Беларусі, дарэчы, калі даць веры статыстычным даным, працуюць 184 музейныя ўстановы. Гэта няшмат, і месцяцца яны не заўсёды ў лепшых будынках, і ўмовы працы ў іх не самыя зручныя. Гэтая заўвага мае дачыненне і да Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Але...

Залы экспазіцыі "Старажытная Беларусь" у гэтым музеі адасоблены ад выставачнай залы доўгім калідорам, сумным і абыякавым. Але час ад часу ён мяняе аблічча, калі на яго сценах вывешваюць фота ды іншыя выявы, узятыя ў рамы ці без іх. Хутка месяц, як на гэтай прасторы змешчаны аркушы і аркушыкі паперы з малюнкамі — выстава твораў "Музей вачыма дзяцей". Аўтары малюнкаў — вучні 4-х і 5-х класаў звычайных мінскіх школ. Але дзеці гэтыя не выпадковыя наведвальнікі музея, а, так бы мовіць, музейна падрыхтаваныя. Некалькі дзесяткаў гэтага юнага народа рэгулярна наведвалі адмысловыя заняткі, дзе прыгожыя і разумныя спадарыні, супрацоўніцы музея, навучалі іх музейнай культуры: як паводзіць сябе ў залах, як разглядаць экспанаты. Дзяцей навучалі, што самы звычайны і просты прадмет можа стаць найкаштоўнейшым гістарычным сведчаннем. Тлумачылі дзеткам, што ёсць гістарычная і духоўная каштоўнасці прадмета, ці заўсёды яны супадаюць з каштоўнасцю камерцыйнай і г. д. І вось, наслухаўшыся і наглядзеўшыся, уражаныя ўбачаным і пачутым, дзеці адгукнуліся на прапанову музейных настаўнікаў намаляваць самае цікавае на іх, дзяцей, думку, з таго, што захоўваецца ў музеі.

Як жа ўсё чытаецца і пазнаецца на гэтых малюнках! Вось рыцар у рыштунку, вось велізарны гліняны гаршчок з далетапіснага часу; вось кнігі, рукою пісаныя, і старадрукі. Разгортваюцца маляўнічыя сцэны з жыцця старажытнага чалавека, у руках якога прылады працы — будучыя экспанаты музея (ведаў бы той чалавек, скрамі абкручаны, з чым мае справу!). На дзіцячых малюнках не проста прадметы мінуўшчыны, але нашы гістарычныя, а часам мастацкія нацыянальныя каштоўнасці. Таму і завецца ўстанова, куды прыходзяць гэтыя дзеці — самі, з настаўнікамі альбо з бацькамі, — Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Упэўнены, што гэтыя дзеці заўважаць духоўныя ды гістарычныя каштоўнасці і сярод рэчаў уласнага дома, сваёй сям'і. Старая "плюшаўка", якую ўжо ніхто не носіць і насіць не будзе (выкінуць, каб трантаў не было!), можа пераўтварыцца ў сямейную рэліквію: сведкам многіх падзей была гэтая вопратка, падзей, звязаных з любімымі і блізкімі людзьмі. Жакецік той пашыў маладзенькай дзяўчыне, прабабулі сучаснага дзіцяці, местачковы кравец; у ім яна хадзіла да касцёлу, і там яе ўбачыў і закахаўся дзядуля бацькі гэтага дзіцяці. А потым... Шмат чаго было потым.

З такім досведам малы чалавек, калі стане дарослым, не будзе бязглузда бурыць старыя будынкі і цэлыя кварталы гарадоў, каб паставіць на іх месцы нешта сучаснае і не заўсёды лепшае. У яго будзе дастаткова культуры, каб з павагаю паставіцца да культуры папярэдніх пакаленняў, а пры неабходнасці знайсці кампраміс... Магчыма, і сябе з такім досведам чалавек будзе адчуваць жывой галінкаю ў радаводзе, падтрымліваючы душы продкаў сваімі малітвамі, адчуваючы іх нябачную апеку...

Трынаццацігадовая Наталля БАГЛАЙ намалявала свае пачуцці радкамі пад назваю

**УРАЖАННЕ АД НАВЕДВАННЯ МУЗЕЯ**

**Я шмат музеяў ведаю**
**І паступова іх наведваю.**
**Кожны рэчы старыя мае,**
**Пра гісторыю нашу апавядае.**
**Аднойчы, калі была нядзеля,**
**Мы з сям'ёй пайшлі да музея.**
**Там была зала беларускай прыроды,**
**Гісторыі нашага народа,**
**Такой дзіцячай фантазіі,**
**Нібы фантазіі з усёй Еўразіі.**
**А мы пайшлі туды,**
**Дзе гісторыя пра мінулыя гады.**
**Гэты пакой культуру ахоўвае,**
**Старажытныя рэчы захоўвае,**
**Ёсць кнігі законаў гістарычнай улады,**
**Усялякія незвычайныя прылады:**
**Вастраканечнік, дзіда, скрабок.**
**Розных манетаў цэлы гаршчок.**
**Упрыгажэнні ўразілі мяне,**
**Непадобныя на сучасныя.**
**Гэты прыгожы пакой**
**Мае цудоўны настрой.**
**Другі пакой радасцю ззяе,**
**І ён захоўвае зброю,**
**Якой карысталіся падчас бою.**
**Мне спадабалася піяніна,**
**Якое так воку міла.**
**Вельмі ўразіў пакой шляхціца,**
**Ён ад сучаснага адрозніваўся.**
**У пакоі стол стаіць,**
**А на ім тоўстая кніга ляжыць,**
**На сценах шаблі вісяць,**
**А збоку коп'я стаяць.**
**І рэчаў шмат другіх,**
**І старых, і маладых.**
**Гэты пакой уразіў мяне.**
**І няхай пабудуць там усе!**

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

## 1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

**Сёлетні год стаў Годам неўміручага Адама Міцкевіча. У шэрагу прыкметных падзей — і паэтычны фестываль, які толькі што прайшоў на возеры Свіцязь, што ў Навагрудскім раёне. Свята, арганізаванае Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Саюзам тэатральных дзеячаў Беларусі, сабрала на месцы, дзе некалі рос, квітнеў славуты міцкевічаўскі дуб, самых розных людзей.**

**Пра Міцкевіча гаварылі, чыталі свае вершы, прысвечаныя яму, беларускія паэты Анатоль Вярцінскі, Міхась Скобла, Вольга Іпатава, Ганад Чарказян, Леанід Дранько-Майсюк, крытык Аляксей Гардзіцкі... Вёў рэй Уладзімір Някляеў.**

**Ганаровым госцем быў расійскі паэт Андрэй Вазнясенскі. Яго сувязь са свіцязянскім краем не выпадковая. Выступаючы на паэтычным фестывалі, Андрэй Вазнясенскі гаварыў пра еднасць нацыянальных культур, пра тое, што паэзія і надалей застаецца энергетычным апірышчам духоўнасці, асветніцтва.**

**Да Свіцязянскага паэтычнага фестывалю спецыяльна выдадзена (выканаўца гэтага ганаровага кніжнага заказу — прыватнае выдавецтва "Пейто") кніга "Свіцязянскі вянок". Пад адной вокладкай сабраны творы Адама Міцкевіча, Рыгора Барадуліна, Андрэя Вазнясенскага. Кніга — на трох мовах: на беларускай, польскай і рускай.**





**НА ЗДЫМКАХ: Анатоль ВЯРЦІНСКІ на Свіцязі; Андрэй ВАЗНЯСЕНСКІ з чытачамі.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

ЮБІЛЕЙНАЯ ВЕЧАРЫНА УЛАДЗІМІРА КАРЫЗНЫ

# «МЫ ВЫЙШЛІ ЎСЕ З ПЕСНІ...»

Сонечным дзяньком у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася вечарына, прысвечаная 60-м угодкам паэта-песенніка Уладзіміра Карызны. На сустрэчу з юбілярам прыйшлі яго добрыя сябры: Іван Курбека, Мікола Аўрамчык, Віктар Гардзей, кампазітар Уладзімір Буднік, а таксама шматлікія прыхільнікі яго творчасці. Вёў вечарыну Іван Курбека.

Першай віншавальнае слова ўзяла дырэктар музея Зінаіда Камароўская. Ад імя ўсіх прысутных яна ўручыла юбіляру ў знак пашаны коласаўскі медаль "Сымон-музыка", адзначыўшы, што У. Карызна сам з'яўляецца адначасова і Сымонам, і музыкам, а таксама сувенір і кнігу Я. Коласа.

Уладзімір Карызна пражыў цяжкае жыццё. У час вайны яго вёсачка Закружна Мінскага раёна была спалена, жыхары сталі заложнікамі фашыстаў. Менавіта тады ён вырашыў даваць свайму народу. Гэту веру ён пранёс праз усё жыццё. З 1961 года, адразу пасля заканчэння універсітэта, на працягу 6 гадоў працаваў у школе настаўнікам рускай і беларускай мовы і літаратуры. Усё, што ён рабіў і робіць зараз, нясе ў сабе вялікі выхаваўчы патэнцыял. Уладзімір Іванавіч кажа пра сябе сам: "Я педагог усё жыццё". Ужо ў 1963 годзе выйшаў яго першы зборнік "Край мой сінявокі", дзе ў кожным вершы адчуваецца любоў да Радзімы, душэўны боль за яе. Уладзімір Карызна — адзін з нешматлікіх паэтаў, якім асабліва блізкай была музыка. Менавіта таму ён доўгі час працаваў на беларускім радыё і ўзначальваў беларускую музычную рэдакцыю.

Пісаў У. Карызна творы для дарослых і дзяцей. Але галоўнай усё ж засталася песенная дзейнасць. Канечне, і да яго былі паэты-песеннікі, будуць і пасля яго. Толькі такі ўклад у беларускую культуру, як Карызна, ніхто пакуль не зрабіў: 24 кнігі вершаў, каля 240 песень, кантаты, араторыі — гэта далёка не поўны пералік таго, што змог зрабіць пясняр краю беларускага. Многія яго песні ўвайшлі ў залаты песенны фонд Беларусі.

Пісьменнік Віктар Гардзей да юбілею сябра у "Настаўніцкай газеце" надрукаваў артыкул. Чарговы раз было падкрэслена, што песні Карызны выконваюць усе вядомыя спевакі: гэта і Пархоменка, і "Песняры", і "Верасы". Яго песні спявае ўся Беларусь.

Асаблівасцю творчасці У. Карызны з'яўляюцца дзіцячыя вершы. Ён загадчык рэдакцыі для самых маленькіх выдавецтва "Юнацтва". Паэт стаў адным з лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі за выданне 15-томніка ў 16 кнігах літаратуры для дзяцей усіх былых рэспублік СССР. Беларусь — адзіная краіна, дзе ёсць такое выданне.

Шмат цёплых слоў у адрас паэта было сказана кампазітарам, сябрам Уладзімірам Буднікам. На словы Карызны ён напісаў больш за 15 песень і нават выканаў некалькі з іх.

У канцы вечарыны прамаўляў сам У. Карызна. У яго слове знайшлося месца і ўспамінам, і жартам.

У зале панавала добразычлівая атмасфера; гледачы з захапленнем слухалі цудоўныя вершы, з галавой акунаўся ў музыку. Нельга непрыкметна праляцела вечарына. Але ў прысутных засталася надзея сустрэцца яшчэ раз у Дзяржаўнай філармоніі з удзелам знакамітага хору імя Цітовіча, "Сяброў", "Бяседы", Дайнекі, Навуменкі і іншых зорак беларускай эстрады, якія выконваюць песні на вершы У. Карызны.



**Выступае Уладзімір КАРЫЗНА.**

Гэты шчыры, інтэлігентны чалавек у маленстве спазнаў вайну, шматлікія выпрабаванні лёсу, ды не скарыўся, не зачарсцвеў душой. Як сапраўдны пясняр краіны Белай Русі, ён кажа: "Мы выйшлі ўсе з песні... Жывіце з ёю і нясіце яе ў сваіх сэрцах праз усё жыццё".

**Алена ПЯКАРСКАЯ.**
**Фота Уладзіміра ГУЗОЎСКАГА.**

*Уладзімір МАТУСЕВІЧ*

## ПАКЛОН АЙЧЫНЕ

*Суродзічам замежжа прысвячаецца*

Сябры з радаводаў маёй Беларусі!
Не часта мы разам збіраемся ўсе...
У снах-успамінах маркоціцца бусел,
Ды спелыя слівы зіхцяць у расе.

Калісьці, я помню, хадзілі па шчаўе...
І песенны вечар брыняў над ракой.
Гучальныя Полацак, Менск і Заслаўе —
Нібыта дзядзінец вякоў пад рукой!
Здаецца, папіўшы духмянага квасу,
Ёсць нам, беларусам, пра што
размаўляць.
Адно б не спазніцца: нямнога ўжо часу
З імклівымі птушкамі леты люляць.

Браткі, мае крэўнікі! Мы — з Беларусі,
Айчыне нясём найвялікшы паклон.
Трымаймся разам! І я спадзяюся:
Заселім
на покуці родным
услон!

г. Лондан.

## СА СТАРОГА КУФРА

# ПІНСКА-ІВАЦЭВІЦКІЯ СТРОІ

Пінска-івацэвіцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Заходняга Палесся. Бытавалі ў XIX — сярэдзіне XX стагоддзяў у Бярозаўскім, Ганцавіцкім, Драгічынскім, Івацэвіцкім, Пінскім раёнах. Ім уласцівая серабрыста-белая каларыстычная гама, стрыманае аздабленне натыканнем, вышыўкай і карункамі, якія падкрэслівалі чысціню тонкага накрухмаленага палатна.

Жаночы летні гарнітур існаваў у 2 варыянтах: кашуля, спадніца-андарак, фартух, кабат (неабавязковая частка гарнітура), намітка; спадніца-палатнянік, кашуля (потым блуза), фартух, чапец з хусткай. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, прышытымі па ўтку, з адкладным або стаячым каўняром. Арнамент — гладкія, пункцірныя, у выглядзе шахматнага поля вузкія пасачкі чырвонага, чырвона-чорнага натыкання на рукавах, грудзях і плечавых устаўках. Фартух шылі з адной полкі, кроенай па ўтку, або з трох-чатырох полак, кроеных па аснове. Арнаментальныя лініі размяшчаліся паралельна лініі нізу або краёў бакавіц, утвараючы палосы ці клеткі з буйным рапортам. У 1930-я — 1960-я гады фартухі аздаблялі таксама паліхромнымі раслiннымі ўзорамі, карункамі. Андарак кроілі з чатырох полак аднатоннай ці ў паскі баваўнянай тканіны чырвонага, фіялетава-сіняга колераў, спадніцу — з белага палатна, на падоле аздаблялі чырвонымі вузкімі паскамі натыкання. Кабат шылі з даматканага цёмна-карычневага (радзей сівога) прываленага сукна без рукавоў (накштальт гарсэта) і з рукавамі (накштальт курты). Галаўныя ўборы жанчын — намітка, аздобленая жывымі або штучнымі кветкамі, ажурна выплецены з ільняных ці баваўняных белых нітак чапец (накладаўся на саламяную каробачку ці тканку), белая хустка з паліхромнай вышыўкай на адным рагу.



Мужчынскую кашулю кроілі з плечавымі ўстаўкамі, падпразвалі шырокім плеценым чырвоным поясам з мноствам дробных кутасікаў на канцах. Летам насілі саламяныя брылі, абвязаныя па верху ўзорыстай тасьмой, зімой — круглыя шапкі з шэрага ці блакітнага сукна і з чорным аўчынным аколышам. Дапаўнялася мужчынскае адзенне скуранoй кайстрачкай-калітой (насілі на раменьчыку цераз плячо або падвешвалі да пояса), скураным чэхлікам для ножыка.

Падрыхтаваў да друку
**Дзяніс РАМАНЮК.**

# ЖЫТНІ ХЛЕБ З «ДУДУТКАЎ»

Музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", што працуе пад адкрытым небам, папоўніўся яшчэ адным дзеючым экспанатам. А калі быць больш дакладным, то ў "Дудутках" — новы аб'ект. Днямі адбылася даволі эксклюзіўная, камерная прэзентацыя хлебапякарні. Тым самым завершана даўно распачатае стварэнне аднаго з тэхналагічных цыклаў музея. Калі раней хлеб толькі сеялі, збіралі ўраджай, малолі зерне ў муку, то зараз яшчэ і пякуць.

На вачах захопленых гледачоў "дудуткаўскія" пекары Галіна Гярлоўская і Віктар Сарока вяршылі сапраўдны цырыманіял. А рэжысёрамі і каментатарамі нараджэння прывабнага, сімпатычнага бохана хлеба былі галоўны метадыст музея "Дудуткі" Элеанора Бабук і галоўны рэжысёр Рускага драматычнага тэатра імя А. М. Горкага Барыс Луцэнка. У цэнтры ж свята, прэзентацыі хлебапякарні былі гаспадыня фірмы "Дудуткі-Тур" Валерыя Кліцунова і, канешне ж, Яўген Будзінас.

Дарэчы будзе заўважыць, што з адкрыццём хлебапякарні музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі" стаў цалкам на рэйкі камерцыялізацыі. Цяпер ужо і "Дудуткі", і ўвогуле выдавецтва "Паліфакт" уваходзяць у холдзінгавую кампанію "Інфабанк". Музей набывае сур'ёзных інвестараў.

Так што ёсць спадзяванне, што "Дудуткі" на пухавіцкай зямлі — надоўга. Усё часцей удзельнікамі мерапрыемстваў у музеі матэрыяльнай культуры становяцца мясцовыя самадзейныя артысты. Вось і гэтым разам нараджэнне хлебапякарні вітаў фальклорна-этнаграфічны калектыў "Навапалачка" разам з руплівым сваім кіраўніком Іванам Сакольчыкам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## «БРАСЛАЎСКІЯ ЗАРНІЦЫ-98»





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Традыцыйнае свята беларускай культуры "Браслаўскія зарніцы-98" прайшло ў маляўнічым кутку лесапарку Леснічоўка ў Браславе. Два дні з раніцы да позняга вечара разам з жыхарамі горада весяліліся артысты з Ушацкага, Докшыцкага, Шумілінскага, Лепельскага, Мёрскага і іншых раёнаў прыдзвінскага краю. На свяце прысутнічалі госці і артысты з Даўгаўпілса.**

**У рамках свята прайшоў першы абласны конкурс народных майстроў па лозапляценню "Лазовы прут", адбылося знаёмства з беларускай кузняй, былі выстаўлены арыгінальныя работы ўмельцаў Віцебшчыны.**

**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі фальклорнага калектыву "Сунічкі" з вёскі Стай Лепельскага раёна Сяргей ЗАЛАТУХА, Каця МІХНО, Алег МІХНО і Света КАНАВАЛІК; Надзея СІНІЦА — рэжысёр гарадскога Дома культуры з Браслава; са сваім майстэрствам знаёміць ганчар з Браслава Валерый ЗІНКЕВІЧ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**



# НА ФЕСТЫВАЛІ Ў БРАСЛАВЕ

Па запрашэнні Браслаўскага гарадскога аддзела культуры ў гэтым прыгожым беларускім гарадку на традыцыйным фестывалі "Браслаўскія зарніцы" ў самым канцы мая пабывалі сябры беларускага таварыства "Уздым", ансамбль "Купалінка" гэтага таварыства. Цёпла прынятыя гаспадарамі свята, яны ўдзельнічалі ў канцэрце на адкрытай сцэне сярод векавых сосен, дзе выступалі шматлікія народныя калектывы з розных куткоў Беларусі (найбольш Віцебшчыны). Тут перад шматлікай аўдыторыяй гаспадары і госці абмяняліся сувенірамі і запэўнілі адзін аднаго, што падобныя сустрэчы як у Браславе, так і ў Даўгаўпілсе будуць і ў далейшым. На гэтым фестывалі прысутнічалі і беларускія дыпламаты з Даўгаўпілса — генеральны консул Васіль Марковіч і консул Валерый Сысоеў.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

г. Даўгаўпілс.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 999.
Падпісана да друку 15. 06. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.